**Акулін, Э., Яцкоў, М.**
Непрычалены човен / Песьні / Акулін Э., Яцкоў М. - Брылі: Справа, 2013. - 27 с.

Паэзія Эдуарда Акуліна вельмі сьпеўная, і кожнае слова вершаваных радкоў гэтага аўтара мае своеасаблівую музычную інтанацыю. Кампазітар Мікола Яцкоў пагартаў старонкі кнігі Э.Акуліна “Непрычалены човен” — і дваццаць вершаў адразу папрасіліся з тых старонак на нотныя аркушы. І ўзляцелі яны лёгкакрыла ў родную прастору — каб несці нам прыгажосць і спагаду, і каб непрычалены акулінскі човен абавязкова даплыў да кожнага удзячнага беларускага сэрца.

# Авэ, Марыя

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова

♩=88

Dm Em
Час прый-шоў за гра- хі ві-ніц-ца, па- мяць па- ліць га-

F G C
-ды на тло, ды час- цей ста-ла ма-ма сьніц- ца,

Dm E7 Am Dm
не са-ма, а я- е Сьвят-ло. Мне на гэ- та Сьвят-

Em
-ло ма-ліц- ца по- куль бу- дзе мой шлях ві- дзён,

F G C Dm
ма-ма, і- мя тва- ё сьвя- ціц- ца хай ад сёнь- ня да

E7 Am Dm
ско- ну дзён. Гэ- таж ты мя- не на- ра- дзі- ла,

Em F
што змаг- ла, то ў жыц- ці да- ла, ты і ёсць для мя-

G C Dm E7 Am
-не Ра- дзі- ма, не пры- вык- ну ка- заць — бы- ла.

Час прыйшоў за грахі вініцца...
Памяць паліць гады на тло.
Ды часцей стала мама сьніцца –
не сама, а яе Сьвятло.

Мне на гэта Сьвятло маліцца –
покуль будзе мой шлях відзён...
– Мама, імя твае сьвяціцца
хай ад сёньня – да скону дзён.

Гэта ж ты мяне нарадзіла.
Што змагла – то ў жыцці дала...
Ты і ёсць для мяне Радзіма.
Не прывыкну казаць – была.

# Па Нёмане на плыце

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова

♩=72

C Dm G C
Чэр-вень. Чэз-ла-е сон-ца. Цень ад вяс-ла ў ва-дзе.

Am Dm G C
Шлях – як жыц-цё бяс-кон-цы па Нё-ма-не на плы-це. Ад

F C F C
зьвіс-ла-га ву-са У-сы, паўз Прыс-тань-ку, дзе ка-лісь дзядзь-ка Я-

E♭ C Cm D
-куб бе-ла-ру-саў ву-чыў, як па-трэб-на жыць. – Пад

B Dm
бел-чыр-ван-бе-лым сьця-гам ку-ды плы-вя-це, хлап-цы?

E♭ B F B
– З грэ-каў плы-вём у ва-ра-гі... – На-праў-ду? Ай, ма-лай-цы!

~~Чэрвень. Чэзлае сонца.~~
~~Цень ад вясла ў вадзе...~~
Шлях – як жыццё бясконцы
па Нёмане на плыце.

~~Ад зьвіслага вуса Усы –~~
~~паўз Прыстаньку, дзе калісь~~
дзядзька Якуб беларусаў
вучыў, як патрэбна жыць...

~~– Пад бел-чырван-белым сьцягам~~
~~куды плывяце, хлапцы?~~
– З грэкаў плывём у варагі...
– Напраўду? Ай, малайцы!

# Патрэбны

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова

♩=76

Ты ка-мусь-ці па-трэб-ны на баць-коў-скай зям-лі,
дзе біб-лей-скі-я вер-бы зо-ры ў кро-ны ўпля-лі. Дзе ў ня-
-бё-сах вы-со-кіх жу-раў-лі-на-вы шляхі, дзе на-
-чу-юць а-нё-лы на цар-коў-ных кры-жах.
rit.
Ты ка-мусь-ці па-трэб-ны, ты па-трэб-ны ка-
-мусь, по-куль мо-ліц-ца не-бу за ця-бе Бе-ла-русь.

Ты камусьці патрэбны
на бацькоўскай зямлі,
дзе біблейскія вербы
зоры ў кроны ўплялі.

Дзе ў нябёсах высокіх –
жураўлінавы шлях,
дзе начуюць анёлы
на царкоўных крыжах.

Ты камусьці патрэбны.
Ты патрэбны камусь...
Покуль моліцца небу
за цябе Беларусь.

# Карчма

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова

♩=88

Dm Gm A7
Як ві- но бур-дзю-ка мя-хі, раз-ры-ва-юць мя-не гра-

Dm B F Gm
-хі, і ду-ша, што бы-ла царк-вой, ма-я ста-ла ця-пер карч-

A7 Dm Gm A7
-мой. а ў карч-ме ла-дзіць чорт ім-шу, а ў карч-ме пра-да-юць ду-

Dm B F Cm D
-шу, хто за срэб-ра, а хто за кроў, хто Ра-дзі-му, а хто сяб-

Gm C F Gm rit.
-роў, не-хта ма-ці, а хтось жа-ну, не-хта здра-ду, а хтось ві-

A7 Dm Gm A7
-ну. Бо ня-ма у карч-ме і-кон, бо пі-ў-ны у карч-ме ам-

Dm B F Gm A7 Dm
-бон, і сьвя-тар хіт-ры чорт глу-хі ад-пус-ка-е ві-ном гра-хі.

Як віно бурдзюка мяхі –
Разрываюць мяне грахі...

І душа, што была царквой,
мая стала цяпер – карчмой.

А ў карчме ладзіць чорт імшу,
а ў карчме прадаюць душу.

Хто за срэбра, а хто за кроў,
хто Радзіму, а хто сяброў.

Нехта маці, а хтось жану,
нехта здраду, а хтось віну...

Бо няма у карчме ікон,
бо піўны у карчме амбон...

І сьвятар – хітры чорт глухі –
адпускае віном грахі.

# Спакон

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова

♩=96

C
Спа- кон у сла-вян-скім жы - це вал-

Am F
-ту-зі-лі-ся між са- бой Ра- сі-я ім - пе - рат-

G
-ры-ца і поль-скі гал-ган ка- роль. Пры

Am Em F
іх ад цям-на да ран - ку са сьвеч-кай на ўсіх вят-

A7 Gm A7
-рах Ра- дзі- ма ма-я ся- лян- кай ста-

Dm E7 Am
-я - ла ў га-ла- вах.

Спакон у славянскім жыце
Валтузіліся між сабой
Расія - імператрыца
і польскі галган-кароль.

Пры іх ад цямна да ранку
са сьвечкай на ўсіх вятрах
Радзіма мая - сялянкай
стаяла ў галавах...

# ДАТУЛЬ

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова

♩=66

Am G

Да-туль Бе-ла-русь ня зьгі - - - не, ня

Gm A7 Dm C

ка-не ў ня-бы - - це-сьне, па-куль у ня-бе-ес-най

Gm F Eb Dm B G D

сі-ні за-ступ-ні-ца Е-фра-сінь-ня мо-ліц-ца за я- е.

Датуль Беларусь ня зьгіне,
ня кане ў нябыцьце-сьне, -
пакуль у нябеснай сіні
заступніца - Еўрасіньня
моліцца за яе.

# Жыве!

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова

♩=72 C Em F

На па- ро- зе ты- ся- ча- год- дзяў, не ска- ро- на- я

Fm C Dm

лі - хаў - не, у Хра- ме - сва- ім На- ро- дзе - як спа-

F G C

-кон - Бе- ла - русь жы - ве!

На парозе тысячагоддзяў,
не скароная ліхаўне,
у Храме - сваім Народзе -
як спакон - Беларусь жыве!

# Жыцьцё і Сьмерць

Словы
Эдуарда Акуліна
Музыка
Міколы Яцкова

♩=66 Dm Am B
Сьмерць за жыць-цём што-дзень блу- ка- е не- ад-
Am Gm
-ступ-на,- як на-да-куч-ны цень, як не-а-доль-ны
A7 Dm Gm A7
сму-так. Жыць- цё на Сьмерць гля-дзець ста-мі-ла-ся ў мар-
Dm B C Am B Am
-ко-це. Жыць- цё мац- ней за Сьмерць, і Сьмерць за гэ- та
Dm
пом- сціць.

~~Сьмерць за Жыцьцём штодзень~~
~~блукае неадступна,-~~
як надакучны цень,
як неадольны смутак.

~~Жыцьцё на Смерць глядзець~~
~~стамілася ў маркоце...~~
Жыцьцё - мацней за Сьмерць,
і Сьмерць за гэта помсціць.

# Нічога

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова

♩=72 Am Dm E7
Па-між на-мі ні-чо-га ня-ма, ні ка-хань-ня, ні
Am F Dm
здра-ды, ні-чо-га, і за-ве-я, як цень ад кры-ла
G A7 Dm
хе-ру-ві-ма па-слань-ні-ка Бо-га. Ён у на-шы-я сны за-ля-
Am B A7
-цеў і пры-му-сіў па-ве-рыць да-звань-ня, што як
Dm G C F G
хва-ля на ці-хай ва-дзе, узь-ні-ка-е з ні-чо-га Ка-
C
-хань-не.

Паміж намі нічога няма.
Ні каханьня, ні здрады – нічога.
І завея – як цень ад крыла
Херувіма – пасланьніка Бога.

Ён у нашыя сны заляцеў
І прымусіў паверыць дазваньня,
што як хваля на ціхай вадзе,
узьнікае з нічога Каханьне.

# Жарсьць

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова

♩=72

Dm E7
Мой грэх сьмя-рот-ны гэ-та ты, я

Dm G C
так ка-хаў ця-бе ад-да-на да пер-ша-род-най яс-на-

F Dm E7 E7 A
-ты на дне сьві-таль-на-га ту-ма-на. Мой // ло - жа.

Мой грэх сьмяротны – гэта ты.
Я так кахаў цябе аддана –
да першароднай яснаты
на дне сьвітальнага тумана.

Мой грэх сьмяротны – гэта ты.
Я так хацеў цябе бязбожна, –
як хоча грэшніцу сьвяты
схіліць на праведнае ложа...

# Жанчына

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова

♩=104

C Am Dm G Coda G C

Жан- чы- на са-суд бяз дна, да- клад- ней-Сусь-вет сусь-
-ве-таў, сам Бог у я-го ві- на на-ліў, каб нат-хняць па-
-э-таў. За-//-ха-на-я, Му-за, Ма-ма.

Жанчына – сасуд бяз дна...
Дакладней – Сусьвет сусьветаў.
Сам Бог у яго віна
наліў, каб натхняць паэтаў.

Заблудзяцца ночы ў днях
у пошуках апахмелкі...
Жанчына – сасуд бяз дна
для тых, хто душой нямелкі.

Камусьці – фрагмент рабра,
узноўлены для Адама...
А мне – акіян сьвятла –
Каханая, Муза, Мама.

# Рай

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова



Райскае дрэва
вецер гайдаў...
Ты – мая Ева.
Я – твой Адам.

Хто нас спакусіў –
цяжка сказаць.
Зьмей нам ня схлусіў –
шчасьце кахаць.

# Каханьне

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова

♩=66 Dm Am
Сем ты-сяч на-чэй я спаў ля тва-іх ва-чэй,
Dm G
сем ты-сяч на-чэй я ды-хаў тва-ім ды-хань-нем,
Dm G
сем ты-сяч на-чэй нам ме-сяц сьвя-ціў яр-чэй,
Dm G rit. C
сем ты-сяч на-чэй ка-хань-ня.

Сем тысяч начэй –
я спаў ля тваіх вачэй.

Сем тысяч начэй –
я дыхаў тваім дыханьнем.

Сем тысяч начэй –
нам месяц сьвяціў ярчэй...

Сем тысяч начэй –
Каханьня.

# Не аддам...

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова

♩=70

Чу- жо-га шчась-ця мне ня трэ-ба, з мя-не ха-па-е і свай-
-го, ў тва- іх ва-чах на- чу- е не-ба, а ў
не-бе тым гась- цю-е Бог. Ка- хань- ня Бог у
род-ным не-бе, ён лу-чыць нас на зло га-дам, чу-
-жо-га шчась-ця мне ня трэ-ба, а- ле й свай-го я не ад-
-дам, а- ле й свай- го я не ад- дам.

Чужога шчасьця мне ня трэба.
З мяне хапае і свайго...
Ў тваіх вачах начуе неба,
а ў небе тым гасьцюе Бог.

Каханьня Бог у родным небе,
Ён лучыць нас на зло гадам.
Чужога шчасьця мне ня трэба,
але й свайго я не аддам,
але й свайго я не аддам!..

# Непрычалены човен

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова

♩=116 Am Dm Em
Ліс, што мкнец-ца па сьле-дзе, кроў, што б'ец-ца у

Dm Em
скронь, не-пры-ру-ча-ны ве-цер, не-хры-шчо-ны а-

A7 Dm G C
-гонь. Поў-ні жоў-та-я сьвеч-ка, дух за-ю-ша-ны

A7 Dm F Em Am
ў ко-мін, не-за-вер-ша-ны ве-чар, не-пры-ча-ле-ны чо-вен.

Ліс, што мкнецца па сьледзе.
Кроў, што б'ецца у скронь.
Неприручаны вецер.
Нехрышчоны агонь.

Поўні жоўтая сьвечка.
Дух заюшаны ў комін.
Незавершаны вечар.
Непрычалены човен.

# Дом

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова

Tempo di valse

Dm Gm C F Gm 1. A7 2. A7 Dm

З яс-на-га не-ба гром, позь-ня-е ад-крыць-цё, ма-ма мой пер-шы дом, хлеб мой, ва-да, жыць- -цё. // -ну-е Бог.

З яснага неба гром —
позьняе адкрыцьцё:
Мама — мой першы дом,
хлеб мой, вада, жыцьцё.

Колькі пасьля было
розных кутоў, хацін, —
толькі — найродны той —
матчын — з усіх адзін.

Сэрца спаліў крыжом,
ды адмаліць ня змог…
Маму — мой першы дом —
сёньня пільнуе Бог.

# Асеньняе

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова

♩=69

Dm Am Dm
У вы-рай бус-лы ча-ра-до-ю па не-бе ад-веч-ным плы-

G C A7 Dm
-вуць, зноў во-сень стра-лой за-ла-то-ю спра-бу-е мне сэр-ца прат-

E7 Dm F
-кнуць. Па- ход- ня-мі клё-ны на ўзгор-ках губ-ля-юць сьвят-лынь у тра-ву, і

G Em Dm E7 Am
ра-дас-на сэр-цу і гор-ка, і кры-ху ба-лю-ча я- му.

У вырай буслы чарадою
па небе адвечным плывуць.
Зноў восень стралой залатою
спрабуе мне сэрца праткнуць.

Паходнямі – клёны на ўзгорках
губляюць сьвятлынь у траву.
І радасна сэрцу і горка,
і крыху балюча яму.

# Анёл-Страцім

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова

♩=72

Мне пры-сьніў-ся Мак-сім Баг-да-но-віч бе-ла-рус-кі а-нёл - Стра-
-цім у біб-лей-скім вян-ку цяр-но-вым, у пра-
-жыл-ках гус-тых кры-ві. Мо-віў ён, і паў-ноч-ны
ве-цер я-го сло-вы між хмар раз-нёс: —Ні на
тым, ні на гэ-тым сьве-це не лі-чы-це ва-ло-шак сьлё-оз, не чы-
-тай-це чу-жы-я пісь-мы, не да-вай-це сьвя-ты-ні псам.
І рас-таў у ня-бес-най вы-сі, там, дзе зьнік-лі сьля-ды Хрыс-та.

Мне прысьніўся Максім Багдановіч —
беларускі анёл-Страцім
у біблейскім вянку цярновым,
у пражылках густых крыві...

Мовіў ён, і паўночны вецер
яго словы між хмар разнёс:
—Ні на тым, ні на гэтым сьвеце
не лічыце валошак-сьлёз,
не чытайце чужыя пісьмы,
не давайце сьвятыні псам...

І растаў у нябеснай высі,
там, дзе зьніклі сьляды Хрыста.

# Балада сустрэчы з Купалам

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова

♩=72 Am, Em, Dm, G, Gm, A7, Dm, E7, Am, Em, Dm, F, Dm, E7, Am

Па ліс-то-це а-па-лай дождж сьля-пы це-ру-сіў,
я прый-шоў да Ку-па-лы да-ра-вань-ня пра-сіць,
да-ра-вань-ня за то-е, што да-гэ-туль ад-каз
на пы-тань-не сьвя-то-е ры-та-рыч-ны а-ванс. //
// Па ліс-то-це а-па-лай дождж ась-леп-лы блу-каў,
я прый-шоў да Ку-па-лы, ён мя-не не ча-каў.

1. Па лістоце апалай
дождж сьляпы церусіў.
Я прыйшоў да Купалы –
даравання прасіць.

Даравання за тое,
што дагэтуль адказ
на пытаньне сьвятое –
рытарычны аванс.

2. Бо няма Беларусаў –
колькі іх не шукай,
тых, хто пойдзе хаўрусам
бараніць родны край.

Ад ганебнага змусу,
ад чужога ярма...
Нас няма, беларусы!
Не было і няма!

3. У правалінах твару,
там, дзе вочы цьвілі, –
спахмурнелыя хмары
задуменна плылі.

Воч ня стала ў Купалы
ці ня хоча глядзець
на нашчадкаў-вандалаў –
тых, хто сёньня ідзе...

4. Па лістоце апалай
дождж асьлеплы блукаў...
Я прыйшоў да Купалы –
ён мяне не чакаў.

# Балада пра Краіну~мару

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова

♩=76 Dm E7 A7
Мы, бе-ла-ру-сы, заў-жды га-то-вы сна-па-мі клась-ці сва-

D Dm Gm
-е га-ло-вы, бы-ло спа-кон так і гэ-так бу-дзе, та-

B A7 Dm
-кі на-род мы, та-кі-я лю-дзі. Наш час спы-ніў-ся між

E7 A7 D
дзьвух Ня-мі-гаў, дзе кроў і сёнь-ня ста-іць па гру-дзі,

Dm Gm B
мы, бе-ла-ру-сы, на-род ад лі-ха, ад Бо-га толь-кі сьвя-

A7 Dm E7
-ты-я лю-дзі. Я-ны бы-лі ў нас, бы-лі і бу-дуць, Раг-

A7 D Dm
-не-да, Ян-ка, Мак-сім, Ла-ры-са, мы, бе-ла-ру-сы, на-

Gm B A7
-род аб-луд-ны, сва-ёй ра-дзі-най не га-на-рым-ся. У

Dm E7 A7
на-шых ду-шах гу-ля-е ве-цер, ка-му мы слу-жым, чы-

D Dm Gm
-е мы дзе-ці, на хра-мах на-шых маў-чаць зва-ні-цы, ня-

B A7 Dm
-ма-я ве-ра, як нам ма-ліц-ца? Як да-ра-вань-ня пра-

E7 A7 D

-сіць у Бо-га, каб Ён вяр-нуў нам ся- бе са-мо-га, Хрыс-

Dm Gm B

-тос ка-лісь-ці ха- дзіў між на-мі, мы, бе-ла-ру-сы, я-

A7 Dm E7

-го пра-гна-лі. З нас, бе-ла-ру-саў, яш-чэ спы-та-юць за

A7 D Dm

лёс Стра-ці-ма, за сім-вал Кра-ю, ча- му у сэр-цы з та-

Gm B A7

-кім ад-ча-ем нас б'е Па-го-ня, ся- чэ мя-ча-мі. Чаць-

Dm E7 A7

-вёр-ты кож-ны з нас стаў зям-лё-ю, Чар- но-быль чы-ніць над

D Dm Gm

на-мі ка-ру, мы, бе-ла-ру-сы, сва- ёй кры-вё-ю са-

B A7 Dm

-бе зда- бу-дзем Кра- і-ну ма-ру. Кра- і-ну ма-ру, дзе

E7 A7 D

мы ўвас-крэсь-нем, як сон-ца з хма-ры, як мо-ва з песь-ні, Кра-

Dm Gm B

-і-ну Ма-ру са- бе зда-бу-дзем мы, Бе-ла-ру-сы! Мы

G A7 D

Ёсць! Мы бу-дзем!

## Балада пра Краіну-мару.

Мы, Беларусы, - заўжды гатовы
снапамі класьці свае галовы.
Было спакон так і гэтак будзе -
такі народ мы, такія людзі.

Наш час спыніўся між дзьвух Нямігаў,
дзе кроў і сёньня стаіць па грудзі...
Мы, беларусы, народ ад ліха,
ад Бога - толькі сьвятыя людзі.

Яны былі ў нас, былі і будуць -
Рагнеда, Янка, Максім, Ларыса...
Мы, Беларусы, - народ аблудны -
сваёй радзімай не ганарымся.

У нашых душах гуляе вецер -
каму мы служым? Чые мы дзеці?
На храмах нашых маўчаць званіцы.
Нямая вера - як нам маліцца?

Як даравання прасіць у Бога,
каб Ён вярнуў нам сябе самога.
Хрыстос калісьці хадзіў між намі...
Мы, беларусы, - Яго прагналі.

З нас, Беларусаў, яшчэ спытаюць -
за лёс Страціма, за сімвал Краю.
Чаму у сэрцы з такім адчаем
нас б'е Пагоня - сячэ мячамі.

Чацьвёрты кожны з нас стаў зямлёю...
Чарнобыль чыніць над намі кару,
Мы, Беларусы, сваёй крывёю
сабе здабудзем Краіну-мару.

Краіну-мару, дзе мы ўваскрэсьнем -
як сонца з хмары, як мова - з песьні.
Краіну-мару сабе здабудзем
мы - Беларусы.
Мы - ёсць! Мы - будзем!

# Змест







**Эдуард Аляксандравіч Акулін** — паэт і бард. Перакладчык. Нарадзіўся 7 студзеня 1963 года ў вёсцы Вялікія Нямкі на Веткаўшчыне. Закончыў гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф.Скарыны і аспірантуру Інстытута літаратуры НАН Беларусі.

Адзін з пачынальнікаў бардаўскага руху. Альбомы "Мая Крывія" і "Як яна і я" — сонечныя цаглінкі ў падмурак музыкі беларускіх менестрэляў. Э.Акулін наведаў з акустычнымі канцэртамі ці не кожны беларускі горад.

Акулін-паэт стварыў драматычную містэрыю "На Каляды". Выдаў зборнікі вершаў "Пяшчота ліўня", "Крыло анёла", "Радно", "Непрычалены човен", "Вітражы" і інш., а таксама некалькі кніг перакладаў.

Эдуард Акулін — галоўны рэдактар літаратурнага часопіса для моладзі "Верасень". З'яўляецца намеснікам старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў.



**Мікалай Адамавіч Яцкоў** нарадзіўся 22 мая 1959 г. ў Магілёве. Скончыў Магілёўскае культасветвучылішча імя Н.К.Крупскай, а потым Мінскі інстытут культуры. Служыў у войску. З 1981 года працуе дырэктарам Брылёўскага сельскага Дома культуры Магілёўскага раёна.

Выдаў зборнікі вершаў «Кракаўскія сшыткі», «Хрышчацік», «Міколавы прыпеўкі». Перакладчык. Член Саюза беларускіх пісьменнікаў. Актыўна выступае як кампазітар-песеннік. Напісаў больш за тысячу песен на вершы беларускіх паэтаў. Аўтар песенных зборнікаў "Гронка бэзу" (на вершы Т.Ляшонка), "Знічка" (на вершы І.Карэнды), «На вайсковыя матывы» (на вершы Я.Купалы), «Птушка залатая» (на вершы А.Куляшова), «Мае сны без цябе пустыя...» (на вершы Э.Акуліна) і інш.

Аўтар музыкі афіцыйна зацверджанага "Гімна Магілёва".



*Літаратурна-музычнае выданьне*

Акулін Эдуард Аляксандравіч
Яцкоў Мікалай Адамавіч

# *Непрычалены човен*

Песьні

*Рэдактар - А.М.Яцкова*
*Нотаграфія - М.А.Яцкоў (рукапіс)*

Выдавец і паліграфічнае выкананьне




№ 76
*3. 01. 2013 г.*
*213107 в.Брылі Магілёўскага раёна, Беларусь*
mikolabryl@gmail.com

